Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 1—20
(Wilno, Ostrobramska 1—20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.
Нумар паштовага разрахунку: 100.

№ 4 (26) | Вільня, 5-га красавіка 1938 г. | Год III.

## Польшч і Літва.

Польска-літоўскі спор, аб каторым мы ўжо некалькі разоў пісалі, увайшоў у сакавіку сёлета ў новую сваю фазу, якую назавём *дыпляматычнай* фазай. Як ведама, да апошняга часу Літва не хацела паддзержываць дыпляматычных зносін з Польшчай дзеля Вільні і Віленшчыны, жадаючы звароту іх, як літоўскіх. Вільня была нават прызнана ў літоўскай канстытуцыі за сталіцу Літвы. Апроч гэтага Літва не паддзержывала з Польшчай ані камунікацыйных, ані паштовых зносін. Ясна, што гэтакія адносіны ня былі нармальны, і на працягу блізу двух дзесяткаў гадоў дыплямацыя польская і эўрапэйская дабывала ўсіх сіл, каб навязаць паміж дзьвяма дзяржавамі нармальныя зносіны — аднак без рэзультату. Гэтак сама без рэзультату асталіся рэпрэсіі, тасаваныя ў Польшчы да літоўцаў, з тэй мэтай, каб аблягчыць палажэньне палякоў у Літве і прымусіць Літву да згоды. Прыгэтым Польшч старалася рабіць націск на Літву праз Латвію і Эстонію. Трэба прызнаць, што рывалізацыя паміж Літвой і Польшчай ў Прыбалтыцы зайшла вельмі далёка.. на некарысьць Літвы.

У гэтакіх палітычных абставінах здарыўся дня 11. III. факт, які здецыдаваў аб перавароце ў польска-літоўскіх адносінах, а гэтым фактам было забойства літоўскай пагранічнай стражай польскага пагранічніка. Зараз пасьля гэтага факту польскі ўрад выдаў камунікат, у каторым заявіў, што пакідае за сабою права заняцьця адпаведнага становішча. Праз шэсьць дзён польская дыплямацыя нашчупывала міжнародны грунт, хочучы ўпэўніцца, ці ня будзе мець перашкодаў пры сваіх далейшых кроках... Здабыўшы такую пэўнасьць, Польшч паставіла (17. III) Літве *ўльтіматум,* жадаючы навязаньня дыпляматычных зносін і даючы ей часу на адказ 48 гадзін. Адначасна польская пяхота, кавалерыя, артылерыя і танкі рушылі ў кірунку літоўскай граніцы. З гэтай прычыны а такжа з прычыны прыезду ў Вільню (18. III) марш. Рыдз-Сьміглага, якога школьная моладзь вітала крыкамі „на Літву“, «на Коўну» і г. п., запахла вайною. Небясьпека вайны была тым болей грознай, што ніхто ня ведаў сапраўдных варункаў польскага ўльтіматуму і сапраўдных імкненьняў польскай дыплямацыі. Усё мела выясьніцца 19. III. вечарам, аднак ужо ў поўдзень стала ведамым, што Літва ўсе польскія варункі прыняла... Француска-савецкі саюз, на які спадзявалася Літва, даць помачы ня змог. Праўда, Англія і Францыя інтэрвэніявалі ў Варшаве, але на дыпляматычнай інтэрвэнцыі і скончылася.

Праз некулькі дзён даведаліся і шырэйшыя палітычныя кругі, што ў ультыматыўнай ноце Літве было пастаўлена дамаганьне *толькі* навязаньня дыпляматычных зносін з Польшчай, уключаючы сюды чыгункавыя і паштовыя зносіны. Польская нацыяналістычная (эндэцкая і кансэрватыўная) прэса, якая жадала далучэньня Літвы да Польшчы як нагароду за далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны, збавіла з тону і пачала адступаць... Характэрная рэч, што эндэцкі „Warsz. Dz. Narodowy“ жадаў адным махам здабыць лінію Дмоўскага, г. зн. Літву, Курляндыю, Латгалію і Беларусь па Бярэзіну! Гэтак узрасьлі эндэцкія апэтыты!

Чаму аднак польскі ўрад паставіў такія малыя жаданьні адносна Літвы?

На гэта зложылася многа прычын: 1) Польшч яе хацела далучаць да сябе сьведамага, ўзгадаванага ў духу незалежнасьці, упартага і заўзятага ў палітычным жыцьці народу літоўскага. Слушна Студніцкі ў „Слове“ (25. III.) пісаў, што Літва за 20 гадоў свайго незалежнага існаваньня ўзгадавала народ у духу незалежнасьці і гэты народ сваей незалежнасьці не забыў-бы. Праз далучэньне Літвы стварыліся-б для Польшчы вялікія труднасьці, бо сьведамыя і ўпартыя літоўцы арганізавалі-б у сваім духу іншыя меншасьці. І сапраўды — маючы два варожыя цэнтры: літоўскі на поўначы і украінскі на поўдні, Польшч павялічыла-б „меншасьцёвыя пытаньні“. 2) Варшаўская „Polityka“ (25. III.) піша, што далучэньне Літвы было-б для малых народаў адстрашаючым фактам, бо гэтыя народы баяцца польскага імпэрыялізму. 3) Галоўнай аднак прычынай такога «мяккага» ўльтіматуму адносна Літвы было імкненьне Польшчы ўключыць Літву ў сваю палітычную сыстэму. „Warsz. Dz. Nar.“ (23. III.) пісаў, што даволі ўзглянуць на карту, каб зразумець, якое вялікае палітычнае, стратэгічнае і гаспадарчае значэньне мае Літва для Польшчы. Ня будзе трывалкай бясьпекі для Польшчы, кажа тойжа „Warsz. Dz. Nar.“, калі Літва астанецца па-за польскай палітычнай сыстэмай — і то бяз рожніцы, ці небясьпека будзе грабіць для Польшчы з усходу ці заходу...

Значыць, польская дзяржаўная рацыя вымагала, каб уключыць Літву ў польскую палітычную сыстэму і гэта ёсьць *галоўная мэта сяньняшняй польскай палітыкі.* Міністар Бэк заявіў, што сьпяшаць і прынукаць Літву ён ня будзе, астаўляючы ўсё натуральнаму ходу падзеяў і часу. Але слушна адзначае тойжа „Warsz. Dz. Nar.“, што час працуе ня толькі для Польшчы, але і для Літвы. Міжнародныя арганізацыі, варожыя для Польшчы, а такжа жыды будуць паддзержываць Літву процяў Польшчы.

Магчыма, што пры ведамай нацыянальнай сьведамасьці і ўпартасьці літоўцаў пераговоры з імі будуць цягнуцца цэлыя гады і няведама, ці давядуць да вырашэньня ўсіх спорных пунктаў. Справа дыпляматычных, чыгункавых, паштова-тэлеграфічных зносін пайшла даволі скора і ў вельмі прыязных формах, але калі прыдуць справы важнейшыя, дык могуць паўстаць труднасьці, тымболей, што літоўцы і цяпер заяўляюць, што Вільні не зракаюцца і бяз Вільні не ўспакояцца. Цяпер літоўцы гавораць пад прымусам, але што будзе, калі гэты прымус зьнікне? Нам здаецца, што Польшчы і Літве цяжка пагадзіцца. Замнога спорных спраў. Да поўнай згоды можа дайсьці толькі ў выпадку супольнай і сьмяротнай небясьпекі для абедзьвух дзяржаў. У сучаснасьці за згоду з Літвою і за ўключэньне яе ў польскую палітычную сыстэму разам з Латвіяй і Эстоніяй на поўначы, а Румыніяй, Вэнгрыяй, а нават Чэхаславаччынай на поўдні стаіць бадай усё польскае грамадзянства. Нават „Роботнік“ пісаў, што пры цяперашнім міжнародным палажэньні Польшч павінна ісьці з Літвою плячо ў пляче і выказваў свае здаваленьне з рэзультатаў ультіматуму. Есьць, праўда, і такія галасы, якія жадаюць для Польшчы вялікіх прывілеяў у Літве, як напр. стварэньне там лятунскіх і марскіх баз для польскай паветранай і марской флёты. Гэтак пісаў „Głos Narodowy“ (Nr. 1), які пачаў выходзіць у Вільні на месца закрытага «Dzien. Wil.». Аднак трэба прызнаць, што польскі ўрад гэтакіх жаданьняў ня ставіць.

Гэтак прадстаўляецца польска-літоўскі спор у апошняй сваей фазе. Як ён будзе разьвівацца далей і ці прыйме форму *аканчальнай згоды*, залежыць ад аднэй і другой дзяржавы а такжа ад міжнародных абставін. Мін. Бэк заявіў, што *літоўскі народ хоча мець сваю дзяржаву. Гэта ёсьць ягонае права і польскі ўрад гэтае права шануе.*

Разважаючы сяньняшнія польска-літ. адносіны можна зрабіць гэтакі важны вывад, што кожны народ, які дасьпеў да незалежнасьці і здабыў яе, можа абараніць гэту незалежнасьць пры помачы нутраной сілы, якая выяўляецца ў нацыянальнай сьведамасьці і волі жыць сваім незалежным жыцьцём. Сьведамага народу, які мае моцную волю жыць незалежным жыцьцём, іншая дзяржава ня хоча далучаць да сябе, баючыся нутраных труднасьцяў, але хоча мець у ім свайго саюзьніка.

Гэта агульны выснаў, а цяпер спэцыяльны, які датычыць нас беларусаў.

Разважаючы ў »Бел. Фронце» (№ 6, 1937 г.) польска-літ. спор, мы разглядалі тады ўсе магчымыя спосабы і праекты вырашэньня яго і дайшлі да вываду, што «ўсе праекты вырашэньня спору датычаць земляў, заселеных беларусамі. А там, дзе справа датычыць беларусаў, справядлівасьць вымагае, каб мелі голас і беларусы». Гэтак мы пісалі блізу год таму. Цяпер мы ня ведаем, у якім маштабе будуць пастаўлены — і ў якім кірунку пойдуць перагаворы паміж Польшчай і Літвою. Але калі-б яны закранулі інтарэсы беларускага народу, справядлівасьць вымагае, каб беларускі народ меў у гэтай справе голас.

## Далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны.

У сакавіку месяцы адбыліся два „аншлюсы“, якія будуць мець вялізарнае значэньне для будучага ўкладу палітычных сіл у Эўропе. Першы »аншлюс» — гэта літоўскі, а другі — аўстрыйскі. Ясна, што паміж двама »аншлюсамі“ ёсьць вялікія рожніцы, але ёсьць і падабенствы. Аб рожніцах і падабенствах кожнага „аншлюсу“ няхай гадаюць нашы чытачы, а мы пярэйдзем да прадстаўленьня самой сутнасьці і рэзультатаў *аўстрыйскага* аншлюсу, які будзе мець большае значэньне для будучыні Эўропы, чым «літоўскі“.

Дня 11.III. Аўстрыя перастала існаваць як незалежная дзяржава і ўвайшла ў склад Нямеччыны. Чаму гэтак скора сталася? То-ж мела ўсё адбыцца, «на раты» і паступова! Так, мела адбыцца паступова, але адбылося раптам, бо цяперашняе палітычнае жыцьцё ідзе штораз быстрэйшым тэмпам. У прошлым нумары »Б. Фр,“ мы пісалі аб варунках, пастаўленых Гітлерам аўстрыйскаму канцлеру Шу- [illegible] Бэрхтэсгадене, рэзыдэнцыі Гітлера. Шушнінг некаторыя варункі споўніў, а ад некаторых стараўся ухіліцца, уводзячы ў Аўстрыі плебісцыт, каб даведацца аб волі народу і даючы толькі тры дні на падгатоўку. Гітлероўцы былі гэтым нямала ўстрывожаны, тымболей, што ад плебісцыту была адсунута моладзь да 24 гадоў, а пасярод моладзі ў Аўстрыі Гітлер мае найболей прыхільнікаў. Тады Гітлер паставіў Аўстрыі ультіматум, жадаючы: 1) адкліканьня плебісцыту, 2) уступленьня Шушнінга, 3) назначэньня канцлерам гітлероўца Зайс-Інкварта і ўтварэньня ўраду з большасьцю гітлероўцаў. Варункі былі прыняты — і тут пачалі адыгрывацца драматычныя падзеі: 11.III. вечарам канцлер Шушнінг праз радіё разьвітаўся з насельніцтвам, заяўляючы, што ўступае перад сілай; зараз пасьля гэтага венская радіястанцыя адыграла апошні раз аўстрыйскі дзяржаўны гімн, канцлерам быў назначаны Зайс-Інкварт, праз радіё пачуліся гукі гітлероўскага гімну «Horst Wessel Lied“, а Зайс-Інкварт выслаў дэпэшу да нямецкага ўраду, просячы помачы... Нямецкая армія рушыла на помач, і праз адзін дзень заняла ўсю Аўстрыю без праліцьця крыві. Падыйшоўшы да італьянскай граніцы, нямецкая армія прывітала італьянскую, а некалькі дзён потым і вэнгерскую. Такім парадкам аншлюс даканаўся, блізу 7 мільёнаў аўстрыйскіх немцаў далучыліся да Нямеччыны.

А потым адбылася ведамая падарож Гітлера у Аўстрыю, дзе ён адведаў магілу сваіх бацькоў (Гіт- [illegible] час стаяў у глыбокай задуме, потым адведаў Вену, дзе ў сваім часе працаваў, як просты работнік (маляр пакояў). Кажуць, што ягоная падарожа у Вену была такім трыумфам, якога Вена яшчэ ня бачыла, народ проста шалеў крычачы »Heil Hitler» — „адзін народ, адзін павадыр, адна дзяржава“! Прыгэтым шэф нямецкай палітычнай паліцыі Гімлер адведаў венскія работніцкія кварталы, сьцьвердзіў там страшэнную галіту, зараз-жа загадаў зарэквіраваць у жыдоў прадукты, адзежу і абутак і раздаць работніцкай беднаце. Гэта

